


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 4(686)**
**Красавік 2023 г.**




## Зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла з нагоды 25 сакавіка 2023 г.

Мае дарагія суродзічы!

Як заўсёды хачу перад усім прывітаць вас ад Рады БНР і сябе асабіста з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, якім мы кожны год адзначаем абвешчаньне незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны.

Колькі часу прайшло і колькі падзеяў мы перажылі ад таго часу, калі Рада Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, выбраная амаль дзьвюма тысячамі дэлегатаў з усяе Беларусі, абвясьціла на сваім сходзе наступнае:

"Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народнай Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўны ідэал."

Дарагія суродзічы, дзеля прысутнасьці 105 год пазьней на нашай усходняй мяжы таго самага крывавага ворага, які дасюль не пазбыўся сваіх імпэрскіх намераў, мы сёньня яшчэ раз абвяшчаем сьвету, што мэтай нашага народу дасюль ёсьць змагацца ўсімі даступнымі нам сіламі, каб абараніць наш вольны і незалежны край ад цяперашняга самазванца і ад ягоных расейскіх патронаў, якія яшчэ ўсё пагражаюць зноў паняволіць наш народ.

Мы маем ледзь не стагодзьдзе дасьведчаньня ўжо не як "тутэйшыя" рабы імпэрыі зла, а як адукаваны, разумны, разьвіты народ, які здольны даць сабе рады ў вольным сьвеце. Ад нас залежыць нашая будучыня – ад кожнага й кожнай з нас!

Хацела б, каб кожны з нас задумаўся, што асабіста ён ці яна можа зрабіць, каб прыцягнуць увагу вольнага сьвету на Беларусь. У цяперашні час гэта надзвычай важна, з улікам таго, якую ганьбу наклікаў на Беларусь дыктатар Лукашэнка сваім саўдзелам у расейскай агрэсіі супраць Украіны. Пакуль сьвет захапляецца адвагай украінцаў і абураецца злачынствамі Пуціна і расейскай арміі, беларусы павінны як наймацней словам і справай дэманстраваць сьвету, што яны на баку сілаў дабра, і што Лукашэнка не прадстаўляе наш народ. Ня дай Бог, каб нехта прыдумаў аддаць Беларусь крываваму тырану ўзамен за мір ва Ўкраіне.

Цяперашні час – шмат у чым лёсавызначальны як для Ўкраіны, так і для ўсяго сьвету і для Беларусі. Але разам мы не дамо ворагу разьбіць нашую еднасьць. Разам мы перанясём усе выпрабаваньні і асягнем нашую мэту: жыць на сваёй роднай зямлі, у сваёй і незалежнай дзяржаве, дзе мы самі будзем вырашаць "аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі".

Дык памажы нам Божа!
Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла*

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

# Сьвяткаваньне 105-х угодкаў незалежнасьці Беларусі ў Нью-Ёрку

У нядзелю, 26 сакавіка 2023 году, у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшло сьвяткаваньне Дня Волі – 105-х Угодкаў Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якую ладзіла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) сумесна з Парафіяльнай Радай Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага пры падтрымцы Асацыяцыі Беларусаў Амэрыкі (АБА).

Імпрэза пачалася сьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Напачатку імпрэзы зь віншаваньнем да прысутных зьвярнулася Старшыня Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА сп-ня Аксана Пятрашка, якая павіншавала прысутных і пажадала прыемна і зьмястоўна паўдзельнічаць у адным з самых важных для беларусаў сьвятаў. Старшыня Галоўнай управы БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка падкрэсьліла значнасьць Акту 25 Сакавіка 1918 году, як падмурку, на якім быў збудаваны шлях да Незалежнай Беларусі, і выказала ўдзячнасьць усім, хто змагаўся і змагаецца дзеля набліжэньня лепшай будучыні Беларусі. Быў прачытаны Зварот Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы, дзе яна, між іншага, адзначае, што мы перажываем нялёгкія часы, і што "беларусы павінны як наймацней словам і справай прадэманстраваць сьвету, што яны на баку сілаў дабра... і каб ніхто ня надумаў аддаць Беларусь крываваму тырану, што разьвязаў вайну, узамен на мір ва Ўкраіне".

Затым з дакладам пра 105-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі выступіў намесьнік старшыні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА сп. Міхась Чаропка. Ён распавёў пра міжнароднае становішча і агульную сытуацыю на беларускіх землях у першыя дэкады 20-га стагодзьдзя, і пра расклад сілаў падчас драматычных падзеяў расейскай рэвалюцыі й Першай сусьветнай вайны ў Беларусі, пра беларускія арганізацыі й партыі ў тыя часы. Затым прамоўца распавёў пра беларускую нацыянальную дзейнасьць і ўтварэньне Беларускай Рады, якая ў сваіх трох Устаўных Граматах адпаведна абвесьціла Беларусь зьдзяйсьняючай самавызначэньне, абіраючай дэкаратычны лад і зацьвярджаючай сваю дзяржаўную незалежнасьць. Сп. Чаропка нагадаў асноўныя падзеі таго часу, кульмінацыяй якіх стала прыняцьце Трэцяй Устаўнай граматы і абвешчаньне Беларусі незалежнай і вольнай дзяржавай. Даклад суправаджаўся дэманстраваньнем слайдаў з фатаздымкамі й дакумэнтамі той пары.

Затым з падборкаю песень, прысьвечаных патрыятычнай тэмтыцы, выступіў слынны паэт і бард, а таксама драматург і перакладчык сп. Сяржук Сокалаў-

*працяг на наступнай бачыне*



Воюш. У ягоным выкананьні прагучэлі песьні “Ніколі ня будзе над намі Расея”, творчы пераклад на беларускую мову славутай “Бэла Чао” – “Бывай, красуня” (“Мы беларусы, мы людзі волі – маўчаць даволі...”), і бадай што найвядомая песьня гэтага музыкі “Аксамітны летні вечар”. У залі было шмат моладзі. Сёлетнюю імпрэзу наагул можна сьмела лічыць рэкорднай па колькасьці ўдзельнікаў. Аднак амаль ніхто з прысутных не падпяваў артыстам – гэта тлумачыцца, напэўна, заўсёднай беларускай сарамлівасьцю, але таксама і незнаёмасьцю з тэкстамі нацыянальнаарыентаваных песень і адсутнасьцю ў нас сьпеўнай культуры наагул, што робіць націск на лучнасьць у песьні, на адчуваньне еднасьці сьпяваючых – карацей кажучы, нам усім ёсьць над чым працаваць, як выступоўцам, так і слухачам. Сп. Сокалаў-Воюш напрыканцы сказаў, што спадзяецца наступную гадавіну БНР – нашага найвялікшага нацыянальнага сьвята – адзначыць на Бацькаўшчыне, у вольнай і сапраўды незалежнай Беларусі.




Сп-ня Аліна Коўшык, журналістка і гісторык, прывітала прысутных ад імя Аб'еднанага Пераходнага Кабінэту Беларусі, як ягоная прадстаўніца па нацыянальным адраджэньні. Яна павіншавала прысутных са сьвятам і, у прыватнасьці, адзначыла, што нашыя каштоўнасьці: Волю, Гонар, Незалежнасьць бароняць ня толькі ваяры-каліноўцы, але і кожны адказны грамадзянін, хто любіць сваю Бацькаўшчыну, хто размаўляе пабеларуску, хто падтрымлівае нацыянальную культуру, чытае беларускія кнігі, хто ахвяруе свой час, сілы і сродкі на грамадзкую, агульную справу. “Трэба, каб кожны ўзьняў свой сьцяг – сьцяг асабістага ўдзелу, асабістай адказнасьці. Ніхто за нас ня зробіць нашай працы. Прыйшоў час перамагаць!”

Сп. Алесь Пазьняк падкрэсьліў важнасьць Акту 25 Сакавіка 1918 году і прачытаў тэкст прынятай у той дзень Трэцяй Устаўнай граматы Рады БНР, што абвесьціла незалежнасьць Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Сп. С. Сокалаў-Воюш дадаў, што нашыя Ўстаўныя граматы згадваюць ня толькі правы і свабоды, але і нашыя землі, і таму сёньня, каб вызначыць, хто ёсьць хто, можна пытацца ня толькі “Чый Крым?”, але і “Чыя Смаленшчына?” – пытаньне будзе лакмусавай паперкай поглядаў дадзенага чалавека.



Затым ад імя Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” вступіў ягоны старшыня сп. Віталь Зайка. Ён прывітаў прысутных і павіншаваў з найвялікшым беларускім нацынальным сьвятам. Ён падзякаваў арганізатарам за выдатную актыўнасьць і дадаў, што ў беларусаў ёсьць фактычна ўсе складнікі для перамогі й нармальнага жыцьця, але цяпер найбольшую ўвагу трэба надаць найменш дагледжанаму складніку – еднасьці й салідарнасьці, і пажадаў, каб для гэтага прыкладалася як найболей высілкаў.

Наступнаю чаткаю імпрэзы быў эмацыйны й узрушваючы выступ сп-ні Вольгі Казак-Анлар, прадстаўніцы этнатрыё сям'і Казакоў. Вольга – пасьпяховая сьпявачка і кампазытар. Яна коратка распавяла пра сябе і выканала пад уласны акампанэмэнт вельмі ўзрушаючую песьню “Белая-белая, сьветлаясьветлая”, а таксама песьні “Легендакрыніца”, “Дзяўчына-вясна” і песьню “Карагод”, з дапамогай якой сьпявачка здолела разварушыць прысутных, што пачалі танчыць у карагодзе.

Сп-ня Ірына Хадарэнка павіншавала прысутных ад імя Беларускай Асьветніцкай Лігі Амэрыкі і прадставіла прысутным выставу мастака-графіка Зьмітра Шапавалава зь Менску, які цяпер жыве ў Варшаве. Творчасьць Шапавалава засяроджаная на гістарычных тэмах і асобах, зьвязаных зь Беларусьсю. Ірына распавяла, як яна пазнаёмілася са сп. Шапавалавым, і прэтэкстам знаёмства зь ім стала беларуская мова. “Наагул беларуская мова – гэта маркер сапраўднага беларуса. Давайце размаўляць па-

*заканчэньне на бачыне 4*

# Жэрдкі ў плоце

## З нагоды 40-годзьдзя

Валасы ўжо ня тыя, але 72 кг пры росьце 176 см сякі-някі посьпех. Віншую ўсіх з гэтым цудоўным сьвятам. Усё такі 40 год таптаць зямлю, амаль столькі ж чысьціць зубы, прыкладна дзясятак з гэтага есьці два яйкі на сьняданак, рабіць многія іншыя рутынныя рэчы не такое ўжо і малое дасягненьне ў гэтым не зусім нармальным, прызнайце, сьвеце. З вышыні сівой галавы магу падзяліцца некалькімі не зусім грунтоўнымі развагамі наконт жыцьця.

Каб жыць больш-менш у шчасьці, трэба кожныя 4 гады знаходзіць новае захапленьне, рабіць зь яго сабе і іншым радасьць. Гэта мой няхітры рэцэпт і, прынамсі ў маім выпадку, працуе, дае паліва. Ня трэба толькі ніколі пачынаць ставіцца да таго, што робіцца, занадта сур'ёзна. Збоку гэта і так для многіх будзе выглядаць сьмешна. Зрэшты, трэба вучыцца гэтым занадта не пераймацца.

Здаецца, мне ўдалося нікому не сапсаваць жыцьця – гэта таксама істотнае дасягненьне. Пра псаваньне нэрваў не скажу, бо калі ў вас нешта пачынае атрымлівацца, то пераважна вакол нехта моцна пачынае нэрвавацца.

Кожныя 10 год трэба мяняць свае навыкі, рэпэртуар, асяродзьдзе і кулінарныя звычкі. Рутына прыгожая, але і небясьпечная рэч. Трэба ўмець кідаць тое, што перастае падабацца, нават калі вы гэта рабілі надта доўга.

У цэлым, жыцьцё непрадказальнае і шмат таго, што ў нас ёсьць, мы заўдзячваем нашым блізкім і вышэйшай сіле, якую многія разумеюць па-свойму. Без гумару, іроніі і невялікіх дозаў сарказму было б наогул ня вельмі сьцерпна. А так, нічога.

Дзякуй за ўсе віншаваньні – перакананы, што іх будзе вельмі шмат.

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Сьвяткаваньне Дня Волі

***заканчэньне з бачыны 3***

беларуску, давайце падтрымліваць прысутнасьць беларусаў і прысутнасьць беларускасьці".

Пасьля смачнага абеду, падрыхтаванага арганізатарамі, адбыўся канцэрт музыкі сп. Зьмітра Вайцюшкевіча. Сам Зьміцер паходзіць зь Лідчыны, і ён густоўна і тактоўна перамяжаў выкананьне песень своеасаблівым стэнд-апам і канфэрансам з прынагодных цікавостак і ўспамінаў, зьвязаных з тым ці другім творам. Напачатку сп. З. Вайцюшкевіч адзначыў, з іранічнай спасылкай на сп. Зянона Пазьняка, што ён, як выканаўца, – "агентура Някляева", шмат карыстае ў сваёй творчасьці з тэкстаў гэтага паэта. Дарэчы, як згадаў вытупоўца, сам сп. З. Пазьняк прыйшоў на ягоны канцэрт у Варшаве і падпісаў музыку сваю кнігу. Першай прагучэла песьня "Наш Сьцяг", вельмі эмацыйны і кранальны твор, што мог бы стаць, а можа і становіцца, гімнам сёнешняга часу, змаганьня нашых сучасьнікаў супраць тыраніі. Затым была песьня "Сакавік". Таксама прагучэла клясычная "Песьня пра Нёман", а таксама вядомы "Палянэз" Агінскага са словамі ў перакладзе С. Сокалава-Воюша ("Беланэз"). Сп. Вайцюшкевіч распавёў, што ён таксама стварае і выконвае шмат дзіцячых песень, якія могуць быць цікавымі ня толькі дзецям, але і дарослым. Прагучэлі песьні "Страказа", прыпевам якой, "Зы-зы-зы", сьпявак здолеў мабілізаваць і аўдыторыю, "Чубатка" і "Янка і санкі". Таксама прысутныя паслухалі ў беларускім гучаньні песьні "Бярозавы сок", "Ты і Я", і "На шалях". Гледачы былі глыбока ўзрушаныя і ўсьцешаныя выступам сп. Вайцюшкевіча і ягонай майстэрскай прэзэнтацыяй сваіх твораў.

Напрыканцы імпрэзы ўдзельнікі яе сабраліся для агульнага фатаздымку перад уваходам у будынак, каля бюстаў нашых слаўных землякоў Тадэвуша Касьцюшкі й Кастуся Каліноўскага. Над Атлянтык авэню прагучэлі гучныя покліч "Жыве Беларусь!" і "Слава Украіне!"

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| Л. і Ю. Кіпель | 150 |
| В. Біліда | 60 |
| Д. Біліда | 60 |
| В. Петрушэнка | 60 |
| П. Усовіч | 60 |
| А. Хаменка | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку:

***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Ю. Кіпель | 250 |
| Т. Бэрд | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| З. Левіт | 30 |
| К. Макарэвіч | 30 |
| В. Петрушэнка | 30 |
| С. Радзько | 30 |
| П. Усовіч | 30 |
| А. Хаменка | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

### Шаноўныя сябры Згуртаваньня *"Пагоня"*!

Калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на наш інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні".***

*(Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*